Published by BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc., U. S. A. and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE

# Беларус

ЦАНА — PRICE 50 ¢

Address: BIELARUS 401 ATLANTIC Ave. BROOKLYN 17, NEW YORK, N. Y.

ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER OF NORTH AMERICA

Год XV. № 92 — 93 Лістапад — Сьнежань 1964. NEW YORK — TORONTO November — December Vol. 92 — 93

## АМЭРЫКАНСКІЯ ВЫБАРЫ 1964 ГОДУ

Прэзыдэнт Ліндан Б. Джансан Віцэ-Прэзыдэнт Губэрт Г. Гамфры

У часе ўсяе выбарнае кампаніі й асабліва напярэдадні самых выбараў у Амэрыцы й сьвеце прадбачвалі перамогу Дэмакратычнай партыі на лістападаўскіх выбарах 1964 году. Але бадай ніхто не прадбачваў гэткай бліскучай перамогі Дэмакратычнай партыі й такога поўнага правалу Рэспубліканцаў. Кандыдат Дэмакратычнай партыі на прэзыдэнта Ліндан Б. Джансан і на віцэ-прэзыдэнта сэнатар Губэрт Г. Гамфры з усіх 50 штатаў здабылі бальшыню ў 45 штатах. Кандыдат на прэзыдэнта ад Рэспубліканскай партыі сэнатар Гары Голдўотар і на віцэ-прэзыдэнта—сэнатар Джэк Р. Мілер— усяго 5 паўдзённых штатаў. Гэта першы выпадак пасьля апошняй вайны гэткай вялізарнай розьніцы галасоў, здабытых абедзьвюма партыямі.

Прыпомнім, што падчас першых паваенных выбараў у 1948 годзе кандыдаты абедзьвюх партыяў атрымалі чуць ня роўную колькасьць галасоў, што навет некаторыя газэты на другі дзень абвесьцілі былі памылкова выбар рэспубліканскага кандыдата губэрнатара Дуі, тады калі ў запраўднасьці аказаўся выбраным дэмакратычны кандыдат Гары Труман. У 1952 годзе быў выбраны за прэзыдэнта кандыдат Рэспубліканскай партыі Двайт Айзэнгаўэр, і то амаль такой-жа вялікай перавагай галасоў, як сяньня кандыдат Дэмакратычнай партыі. Але прычынай такой вялікай перамогі Айзэнгаўэра было не ягонае кандыдаваньне ад Рэспубліканскай партыі, але чыста асабістыя заслугі, як пераможніка ў вапошняй вайне. Падчас выбараў 1960 году кандыдат Дэмакратычнай партыі Джон Ф. Кенэды адно вельмі нязначнай колькасьцяй галасоў перамог рэспубліканскага кандыдата Рычарда Ніксана. Значыцца, сілы абедзьвюх партыяў былі за ўвесь паваенны пэрыяд амаль што роўныя. Сяньня-ж гэтая раўнавага сілаў раптоўна перастала існаваць. Рэспубліканцы выйшлі з выбараў зусім пабітымі.

Прычыны такога зьявішча былі й вонкавыя, і нутраныя.

У замежнай палітыцы прэзыдэнт Джансан праводзіў лінію міжнароднага паразуменьня й каэгзыстэнцыі з камуністычным сьветам. Аказваецца, гэткая палітычная лінія сяньня найбольш адпавядае Амэрыканцам, якія баяцца магчымых міжнародных закалотаў, што маглі-б прывесьці да новай вайны.

Дзьве важныя падзеі, што мелі месца ў міжнародным жыцьці якраз напярэдадні выбараў, значна ўзмоцнілі гэтыя настроі, а тым самым і пазыцыі Дэмакратаў. Аднэй з гэтых падзеяў быў неспадзяваны й раптоўны ўпадак Хрушчова, які прытрымліваўся ці, прынамся, паказваў, што прытрымліваецца палітыкі каэгзыстэнцыі з капіталістычным Захадам. Прыход у Савецкім Саюзе да ўлады новых людзей, палітычны курс якіх пакуль што няведамы, павялічыў магчымасьці павароту да халоднае вайны ў выпадку перамогі Рэспубліканцаў ды іхнай больш станоўчай і войстрай лініі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу.

Другой падзеяй быў першы выбух атамнай бомбы ў Кітаі. Праўда, прэзыдэнт Джансан, для ўспакаеньня амэрыканскай апініі, быў асьветчыў, што Кітаю яшчэ патрэбна 15-20 год, каб стацца атамнай магутнасьцяй. Тым ня меней, уклад сусьветных сілаў павялічыўся ў карысьць камуністычнага сьвету. Небясьпека атамнае вайны пабольшылася. Праціўнікі Голдўотара навет зь ягонай собскай партыі перасьцерагалі, што перамога Голдўотара сталася-б „катастрофай" для Амэрыкі й цэлага сьвету. А Дэмакратычная партыя зьвязвала ягонае імя із загрозай атамнай вайны або ізаляцыянізмам Амэрыкі. Калі амэрыканскія выбіральнікі баяліся асобы Голдуотара на становішчы свайго прэзыдэнта, дык што й гаварыць пра іншыя краі. Навет гэтак наважаныя антыкамуністычныя краі, як Заходняя Нямеччына й Японія, выказвалі сваю боязь перад раптоўнымі й непрадбачанымі зьменамі ў выпадку выбару Голдуотара.

Ня менш важныя былі й нутраныя прычыны, што прынесьлі перамогу Дэмакратам. Прэзыдэнт Джансан змог пахваліцца перад выбіральнікамі канкрэтнымі дасягненьнямі ў кірунку нутранага прагрэсу й павышэньня дабрабыту амэрыканскага жыхарства. Даволі тут прыгадаць такія мерапрыёмствы, як зьмяншэньне падаткаў, прыняты сёлета закон аб цывільных правох, заплянаваныя палепшаньні ў галіне зацыяльнага забясьпечаньня й інш. Усё гэта не магло ня мець уплыву на выбіральнікаў.

Няўдачу Рэспубліканцаў палітычныя камэнтатары прыпісваюць таксама няправільнаму іхнаму выбару кандыдата на прэзыдэнта — сэнатара Голдуотара. Сваімі радыкальнымі заявамі й мала рэальнымі абяцанкамі ня змог ён здабыць патрэбнага даверу ў народзе. Навет шмат якія рэспубліканцы не падтрымлівалі кандыдата сваёй партыі. У выніку гэтага суадносіны сілаў у вабедзьвюх палатах Кангрэсу пасьля выбараў значна перахіліліся ў карысьць Дэмакратаў.

Як ведама, разам з выбарамі прэзыдэнта й віцэ-прэзыдэнта адбываліся перавыбары й усіх 435 кангрэсмэнаў ды аднэй трэйцяй або 35 сэнатараў. У выніку выбараў, Дэмакраты цяперака здабылі 68 месцаў у Сэнаце заміж дагэтуляшніх 66, а Рэспубліканцы 32 заміж ранейшых 34. Яшчэ большая перавага Дэмакратаў у Палаце Рэпрэзэнтантаў: дагэтуль яны мелі 257 кангрэсмэнаў, а падчас апошніх выбараў здабылі 295. Рэспубліканцы мелі раней 178 кангрэсмэнаў, а ў новым Кангрэсе будуць усяго мець 140.

Між іншымі, ня быў перавыбраны рэспубліканскі сэнатар ад Ньюёркаўскага штату Кэнэт Е. Кітынг. Ягонае месца заняў брат былага прэзыдэнта Робэрт Кенэды. У васобе Кітынга мы Беларусы страцілі шчырага нашага прыяцеля ў Сэнаце, які заўсёды ахвотна падтрымліваў нашыя нацыянальныя справы.

Калі глядзець на вынікі выбараў з нашага беларускага гледзішча, дык трэба сьцьвердзіць, што праграма Рэспубліканскай партыі ставіць пытаньне вызваленьня паняволеных народаў шырэй і канкрэтней. Дэмакратычная партыя, далёка заангажаваўшыся ў палітыцы каэгзыстэнцыі, хоць і сымпатызуе й спачувае нашым нацыянальным імкненьням, аднак ня робіць ніякіх палітычных крокаў у кірунку вызваленьня. Пры гэтым, Дэмакраты ў дачыненьні да паняволеных народаў прыдзержываюцца, нажаль прынцыпу гэтак званага „непрадрашэнства". У зьмешчаным у папярэднім нумары „Беларуса" лісьце Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША да Галоўнай Управы БАЗА выразна сказана: „Наш урад працягвае падтрымліваць імкненьні народаў Савецкага Саюзу, не абумоўліваючы наперад іхнага палітычнага ладу, які мае быць устаноўлены самымі гэтымі народамі пасьля таго, калі яны будуць мець свабоду выбару гэтага ладу".

Затое Рэспубліканская партыя на сваей канвэнцыі ў Сан Францыска ў ліпені сёлета ўвяла ў сваю праграму пункт, у якім сказана, што яна „будзе весьці курс палітыкі дзеля вызваленьня народаў Усходняе Эўропы". — Сам-жа Голдуотар коратка перад выбарамі зьвярнуўся быў да Амэрыканцаў, што паходзяць із-за зялезнай заслоны, з тэлеграмай, у якой рабіў далёка йдучыя забавязаньні. У тэлеграме да Амэрыканцаў беларускага паходжаньня Голдуотар заявіў: „Стаўшыся прэзыдэнтам, я дагледжу, каб пытаньне незалежнасьці Беларусі й самавызначэньня было пастаўленае ў Задзіночаных Нацыях. Я дамагаўся-б, каб была зарганізаваная Беларуская Сэкцыя ў Голасе Амэрыкі, як крок да больш праўдзівай рэпрэзэнтацыі Беларусі ў Задзіночаных Нацыях. Я зраблю ўсякія мірныя захады — эканамічныя, дыпляматычныя, маральныя — дзеля прысьпяшэньня свабоды беларускага народу".

Няма сумлеву, што падобныя палітычныя заявы падымаюць на духу й узмоцніваюць сярод нашага народу надзею на вызваленьне. З другога, аднак, боку, перадвыбарных палітычных дэклярацыяў у Амэрыцы звычайна ня прыймаюць дасло̆ўна. Памятаем, як выбарная кампанія 1952 году вялася Рэспубліканцамі пад лёзунгам „палітыкі вызваленьня" для паняволеных камунізмам народаў. Але калі выбары былі імі выйграныя й становішча прэзыдэнта абняў Айзэнгаўэр, дык у практычнай палітыцы ягонага ўраду гэты лёзунг страціў усякае значэньне.

Трэба не забывацца, што ніводзін амэрыканскі прэзыдэнт, навет пры найлепшых асабістых жаданьнях, ня можа праводзіць палітыкі, якой у дадзены мамэнт не падтрымлівае народ. А сяньняшняя палітычная атмасфэра ў Амэрыцы й наагул на Захадзе ня ёсьць асабліва спрыяльная для справы вызваленьня паняволеных народаў.

Гэта, аднак, не абазначае, што сытуацыя хутка ня зьменіцца на лепшую. І мы перакананыя, што само жыцьцё прымусіць зрабіць гэтыя зьмены. А таму мы павінны, не апускаючы рук, працаваць пры кажнай палітычнай каньюнктуры, каб сярод сілаў свабоды папулярызаваць і прапагаваць нашыя вызвольныя ідэі.

Язэп Каранеўскі

### ДА НАШЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ

**Гэтым нумарам пачынаем другі год выдаваньня аднаўленага летась „Беларуса". Таму ўсе тыя, што атрымлівалі газэту на працягу году й аплацілі гадавую падпіску, цяперака павінны аднавіць падпіску на наступны год. Хто гэтага ня зробіць, таму далейшая высылка газэты, пачынаючы ад наступнага нумару, будзе спыненая.**

**УСІХ БЕЛАРУСАЎ ВІТАЕМ З ПАДЫХОДЗЯЧЫМІ**

**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**

**й жадаем шчасьлівага Новага 1965 Году!**

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне,**
**Рэдакцыя газэты „Беларус".**

## НА ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ АЛЯКСАНДРЫ ОРСЫ

Сёлета споўнілася роўна пяць год ад сьмерці заслужанага беларускага дзеяча Аляксандры Орсы. Ён памёр 2 лістапада 1959 году ў Нью Ёрку, пражыўшы 63 гады, і пахаваны на беларускім могільніку ў Іст Брансьвік, Нью Джэрзі.

З гэтае нагоды ў нядзелю 8 лістапада ў катэдральным саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку была адслужаная па памерлым Паніхіда. Пасьля Паніхіды зь ініцыятывы й стараньнямі былых вучняў Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, дырэктарам і настаўнікам [illegible] быў увесь час Аляксандра Орса, была зладжаная памінальная бяседа.

У бяседзе прынялі ўдзел многія Бе[illegible] былыя вучні, сябры й супрацоўнікі Аляксандры Орсы, што пра[illegible]ваюць цяпер у Нью Ёрку й [illegible]ных аколіцах. Бяседу адкрыў былы вучань Аляксандры Орсы д-р Вітаўт Кіпель. У сваей глыбокай прамове ён падчыркнуў заслугі Аляксандры Орсы галоўна, як настаўніка й узгадавальніка маладога пакаленьня. Прамоўца адзначыў, што наяўнасьць сяньня значнае колькасьці маладой беларускай інтэлігенцыі на Захадзе, выхаванай у гарачым беларускім патрыятызме, ёсьць вынікам сыстэматычнае й настойлівае пэдагагічнае дзейнасьці Аляксандры Орсы як на эміграцыі, спачатку ў Заходняй Нямеччыне, пасьлей у Нью Ёрку, гэтак і на Бацькаўшчыне, у ягоным родным Навагрудку.

Пасьля гэтага прамаўлялі сп. сп. інж. М. Гарошка, д-р Ул. Набагез, Ф. Родзька, інж. М. Рагуля, Ул. Русак, д-р Ст. Станкевіч, Уладыка Васіль і М. Тулейка. Кажны з прамоўцаў падчыркваў заслугі й дасягненьні Аляксандры Орсы ў тэй або іншай галіне ягонай дзейнасьці.

А гэтых галінаў было шмат. Апрача сваёй аснаўной пэдагагічнай дзейнасьці, Аляксандра Орса прымаў актыўны ўдзел у кажнай дзялянцы нашага нацыянальнага руху. Гэта быў рэдкі ў нашых абставінах працаўнік, які для нацыянальнай справы заўсёды даваў максімум таго, што фізычна мог чалавек наагул даць. Самаахвярная дзейнасьць для свайго народу была арганічнай патрэбай ягонае глыбокае душы й гарачага сэрца.

Дык зусім натуральна, што ўдзячныя яму былыя ягоныя вучні, супрацоўнікі й сябры, хоць сьціпла, але шчыра адзначылі пятыя ўгодкі сьмерці Аляксандры Орсы.

Ст. Ст.

### ЗАСУДЗІЛІ ВАНЬКОВІЧА

У папярэднім нумары „Беларуса" мы паведамілі аб арышце й пераданьні суду папулярнага польскага пісьменьніка Мэльхіёра Ваньковіча, знанаму добра й на Беларусі, зь якое ён і паходзіць.

9-га лістапада ў Варшаве быў вынесены прысуд Ваньковічу на тры гады зьняволеньня.

Ваньковіч быў арыштаваны на пачатку кастрычніка за „распаўсюджаньне за межамі вестак, што дэскрэдытуюць рэжым". Аднак, як мяркуюць польскія „няўрадавыя" колы, уся справа ў тым, што Ваньковіч падпісаў, у ліку 34-ох ведамых польскіх пісьменьнікаў і журналістых, славуты „Пратэст 34-ох", скіраваны супраць жорстокае цэнзуры іхных твораў урадам Гамулкі й Цыранкевіча.

Што гэта якраз так, сьветчыць і факт арышту, апрача Ваньковіча, ужо некалькіх іншых пісьменьнікаў з гэтых „34-ох", і нядаўнае выступленьне Гамулкі ў справе ўрадавае цэнзуры ды свабоды слова й друку.

Прамаўляючы на зьезьдзе польскіх пісьменьнікаў, што адбываўся ў Любліне напрыканцы верасьня сёлета, першы сакратар польскае камуністычнае партыі, між іншага, прыгадаў і творы пісьменьнікаў, нясугучныя з партыйнымі дырэктывамі: „Усе гэткія творы партыйнаю цэнзураю да друку дазволеныя ня будуць", — заявіў Гамулка.

**УВАГА! УВАГА!**
**У СПРАВЕ ВЫДАНЬНЯ 1-й КНІГІ „ГАРАВАТКІ"**
**„ДЗЯРЛІВАЯ ПТУШКА"**

**Прашу ўсіх суродзічаў, што мелі намер пераслаць падпіску на кнігу, тых, што зьбіралі грошы на лісты, да канца бягучага году палагодзіць гэтыя справы. Гэта неабходна дзеля плянаваньня кнігі. Калі хто ня зможа яшчэ скончыць зборкі падпісак і ахвяраў у вышэйпрыгаданым часе, дык прашу прынамся паведаміць мяне аб гэтым.**

**Першая кніга „Гараваткі" будзе каштаваць 3 дал., абыймаючы звыш 200 бачынаў друку. Ахвяры й падпіску слаць на адрыс:**
**Mr. K. Akula, 57 Riverdale Ave. Toronto 6, Ont. Canada.**

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ**

**ладзіць**

**ЖАЛОБНУЮ АКАДЭМІЮ**

**у памяць нядаўна памерлага выдатнага беларускага паэты, гарачага патрыёты й шматгадовага вязьня савецкіх турмаў канцэнтрацыйных лягераў**

**ЯЗЭПА ПУШЧЫ**

**Акадэмія адбудзецца ў нядзелю 20 сьнежня 1964 году 2,30 гадзіне папаўдні ў залі**

**УКРАІНСКАГА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА КЛЮБУ**

**ў Нью Ёрку пры 149 2-ой Эвэню (паміж 9-ай і 10-ай вуліцамі).**

**Усіх ветліва запрашаем**

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper of North America
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
and BYELORUSSIAN CANADIAN ALLIANCE
**Address in U.S.A.:** BIELARUS, 401 Atlantic Avenue Brooklyn 17, N. Y.
**Address in Canada:** Byelorussian Canadian Alliance
524 St. Clarence Avenue Toronto 4, Ont.
Subscription $ 4.00 yearly.

**БЕЛАРУС** — Беларуская газэта Паўночнае Амэрыкі
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдаюць: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне
й Згуртаваньне Беларусаў Канады.
Выпіска зь перасылкаю — 4 дал. на год.

# НАШ КОН

**(ДА 44-ЫХ УГОДКАЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ)**

Аб Слуцкім Паўстаньні пісалася ўжо вельмі шмат. На працягу год беларуская эміграцыйная прэса прысьвяціла гэтай тэме цімала ўжо бачынаў. Ня варта таму паўтарацца й пачынаць аднова гісторыю гэтага паўстаньня. Аднак, парафўнаць Слуцкае Паўстаньне зь іншымі вайсковымі акцыямі, што адбываліся на ўсходзе Эўропы ў часох дзьвюх сусьветных войнаў і мелі за мэту змаганьне за незалежнасьць, — будзе зусім дарэчы.

Беларуская гісторыя гэтак нешчасьліва склалася, што, пачынаючы ад 18-га стагодзьдзя, Беларусь нясупынна была пад нечай акупацыяй. Ясна, што акупанты ніколі ня дбалі аб акупаваным імі краю. Чужынцы намагаліся адно выкарыстаць Беларусь для сваіх мэтаў, як эканамічна, гэтак і з гледзішча вайсковага, як базу для сваіх наступальных ці абаронных плянаў. У гэтых абставінах беларускі народ ня мог і марыць аб стварэньні свайго войска або закладаньні нейкіх арганізацыяў, яўных ці тайных, што маскавалі-б падрыхтоўку вайсковых кадраў, якія маглі-б разгарнуцца, пры адпаведнай нагодзе, у вайсковыя адзінкі.

Вялікія сусьветныя падзеі, як Першая Сусьветная вайна й ейны вынік — рэвалюцыя — выклікалі ў паняволеных народаў Усходняе Эўропы надзею вырвацца спад улады панявольнікаў. Вырвацца спад яе, аднак, можна было адно ўжыўшы цімалую фізычную сілу, гэта значыцца — толькі стаўшы на шлях збройнага змаганьня. Адным народам гэта ўдалося, іншым — не. Прыбалтыка, прыкладам, Эстонія, Лацьвія й Летува, патрапілі арганізавацца, хай невялікія, нацыянальныя збройныя сілы і ўступіць у змаганьне з чырвонаю арміяй. І яны адваявалі сваю незалежнасьць, у чым ім, праўда, дапамагло занятце бальтыцкіх партоў ангельскім ваенным флётам. Сталася-ж гэта ўзноў таму, што народы Прыбалтыкі сваім збройным выступленьнем супраць чырвонае арміі задэманстравалі перад усім сьветам волю да незалежнасьці.

Беларускае палажэньне гэнымі часамі было зусім іншае. На прастору Беларусі мела ахвоту не адно чырвоная Расея, але й Польшча. Польска-бальшавіцкая вайна 1919-га й 1920-га гадоў адбывалася на нашай зямлі. Калі ў 1919-м годзе польская армія заняла Беларусь па Бярэзіну, польскія скрайныя нацыяналісты вырашылі, што гэтая частка Беларусі застанецца ўжо назаўсёды пад Польшчаю. Пад уплывам гэтых нацыяналістых польскі урад ня прызнаў незалежнасьці Беларусі, абвешчанай 25-га сакавіка 1918-га году. Пахавалі гэтыя самыя польскія нацыяналісты й спробу арганізацыі беларускага войска, пачатую з дазволу польскага галоўнага камандаваньня.

Пасьля падпісаньня замірэньня паміж Палякамі й бальшавіцкім урадам ды правядзеньня дэмаркацыйнае лініі, што бегла на Случчыне па рацэ Лані, польская армія адыйшла на захад. Тымчасам, чырвоная армія, адыходзячы перад наступам арміі польскай на ўсход, была зусім здэзарганізаваная. Каб заняць абшар на ўсход ад ракі Лань, чырвонаму камандаваньню спатрэбіўся час на пераарганізацыю сваіх вайсковых адзінак і падцягненьне рэзэрваў. Гэткім чынам, на Случчыне працягам нейкага часу ня было ніякіх акупантаў. З гэтага й скарыстала Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, неадкладна высылаючы на Случчыну аднаго з радных, случчака Паўла Жаўрыда, з заданьнем арганізаваць на вольнай ад акупацыі Случчыне беларускае супрацьбальшавіцкае паўстаньне. Паўнамоцніку Рады БНР доўга пераконваць случакае жыхарства ў неабходнасьці збройнага адпору — не давялося. 14-га лістапада 1920-га году быў скліканы агульна-беларускі зьезд Случчыны. Зьезд пастанавіў пачаць збройнае змаганьне з бальшавіцкай Расеяй за незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі. Там-жа было пастаноўлена як найхутчэй арганізаваць сваё войска дарогаю мабілізацыі.

Мабілізацыя дала вельмі добрыя вынікі. Была арганізаваная гэтак званая Паўстанская Слуцкая Брыгада, хоць паводля ліку жаўнераў і паводля формы, арганізацыя гэта была ў запраўднасьці дывізіяй у сіле каля дзесяцёх тысячаў чалавек.

27-га лістапада 1920-га году дывізія гэтая й выступіла супраць надыходзячай ужо з усходу чырвонай арміі. Завязалася няроўнае збройнае змаганьне. Чырвоная армія, непараўнальна большая колькасна й шмат лепш узброеная, была паўстанцамі затрыманая. Так пачалася беларуска-бальшавіцкая вайна. У гэтай вайне выявілася нашая поўная адзінота. Геаграфічнае палажэньне Беларусі, зацісьненай між двума варожымі ёй народамі, польскім і расейскім, ня цікавіла дзяржавы Заходняе Эўропы. Як ужо ўспаміналася, балтыцкім народам у змаганьні за незалежнасьць дапамагла Ангельшчына, якая была зацікаўленая ў балтыцкіх партох. Польшча атрымала вялікую дапамогу зброяй, грашыма й вайсковымі спэцыялістымі ад Францыі. У крытычны мамэнт Польска-бальшавіцкае вайны, калі чырвоная армія падыйходзіла ўжо да прадмесьцяў Варшавы стратэгічную развязку дзеля разьбіцьця ворага, даў Палякам францускі генэрал, пазьнейшы маршал, Вэйганд.

Беларускія-ж паўстанцы на Случчыне зьнядкуль ніякае дапамогі атрымаць не спадзяваліся. Слаба ўзброеныя, ня маючы за сабой базаў ні людзкіх рэзэрваў, — Случчакі пайшлі паміраць, каб жыла Беларусь адно таму, што так казала ім іхнае жаўнерскае сумленьне й любасьць да бацькаўшчыны. І ў гэтым якраз — веліч іхнае ахвяры. Памяць аб ёй будзе заўсёды жывая ў кажным беларускім сэрцы.

Мінулі ўжо гады ад гэных часоў, а Беларусы штогод адзначаюць дзень 27-га лістапада із зразуменьнем, з урачыстю павагаю, як **Дзень Беларускіх Герояў.** Будзе адзначаць гэты дзень беларуская эміграцыя ў вольным сьвеце й сёлета. Будзе сьвяткаваць яго й налета. Бо, як сказаў паэта:

„Змагацца за свой край, за супакой, за радасьць, — наш Кон...
Відаць, так нам судзіў ён нараду!"

**Ф. Кушаль**

# ПАМЯЦІ ПРЭЗЫДЭНТА КЕНЭДЫ



Пад зьмешчаным вышэй патрэтам чытаем подпіс: „Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню мае найлепшыя пажаданьні — Джон Ф. Кенэды". Патрэт гэты нябожчык Прэзыдэнт Кенэды падараваў Беларусам Задзіночаных Штатаў Амэрыкі ў вадзнаку свае прыхільнасьці да іхнае працы й свайго разуменьня іхных праблемаў ды імкненьняў.

Сяньня, у трагічныя ўгодкі перадчаснае сьмерці Прэзыдэнта Кенэды, варта аб гэтай ягонай прыхільнасьці ўспомніць.

Прэзыдэнт Кенэды добра ведаў праблемы амэрыканскіх эмігрантаў, іхныя імкненьні, іхнае жыцьцё, ціню працу нацыянальных арганізацыяў, заўсёды казаў, што пара зрабіць канцы з паняволеньнем адных народаў другімі. І ён цірас прыгадваў што якраз эміграты дапамагаюць Амэрыцы належна зразумець праблемы паняволеных народаў.

Значаньню іміграцыяў, іхнай працы ды ўдзелу ў разбудове Задзіночаных Штатаў Прэзыдэнт Кенэды прысьвяціў сваю апошнюю працу-кнігу „Нацыя Эмігрантаў", якую ён пісаў апошнімі месяцамі свайго жыцьця.

У сваёй кнізе „Нацыя Эмігрантаў" Прэзыдэнт Кенэды пісаў: Спаміж 56-ёх асобаў, што падпісалі Дэклярацыю Незалежнасьці Задзіночаных Штатаў Амэрыкі — васемнаццаць былі неангельскага паходжаньня, а восем — эмігрантамі ў першым пакаленьні... На працягу вось ужо стагодзьдзяў уклад эмігрантаў у эканамічнае, палітычнае, сацыяльнае, культурнае й дзяржаўна-палітычнае жыцьцё Задзіночаных Штатаў Амэрыкі — вельмі вялікі. Паводля аналізу, зробленага ў 1953 годзе Прэзыдэнцкай Камісіяй да пытаньняў Іміграцыі й Грамадзянства, — якраз эміграты стаялі ўвесь гэты час ля стырна амэрыканскае прамысловасьці ды тварылі амэрыканскую навуку.

Аналіз Амэрыканскага Біяграфічнага Слоўніка за 18-19 стагодзьдзі паказвае, што 61% амэрыканскіх артыстых, 46% музыкаў, 24% інжынераў, 20%, навукоўцаў, 28% архітэктараў ды 20% людзей, занятых у вялікім амэрыканскім гандлі, — нарадзіліся паза межамі Амэрыкі.

Выдатную ролю ў росьце й разьвіцьці краю меў і так званы звычайны, „ананімны" эмігрант. Як ведама, паміж 1880 і 1920 гадамі Амэрыка выйшла на сусьветную арэну, як прамысловы й сельскагаспадарскі волат. Сталася яна й вядучым краем паводля пастачаньня крэдытаў. Гэтага ўсяго нельга было-б дасягнуць, каб не цяжкая праца тэхнічнага рыхтаваньня ды прадпрымальніцкія здольнасьці бадай 24-ох міліёнаў эмігрантаў, што прыбылі ў Задзіночаныя Штаты на працягу гэтага часу.

Трэба тут-жа зазначыць, што ў гэтым-жа часе, у канцы 19-га й у пачатках 20-га стагодзьдзяў у Задзіночаныя Штаты прыехалі й першыя паўтара зь лішкам міліёнаў Беларусаў, спрычыніўшыся ў вялікай меры да разбудовы гэтага краю.

Але вернемся да кніжкі нябожчыка Прэзыдэнта Кенэды. — Вялізарны ўклад, — пішацца там, — зрабілі эміграты й у амэрыканскую літаратуру, разьвіцьцё мовы ды звычаяў. Навет гэткая чыста бытавая галіна, як амэрыканская кухня, шмат заўдзячвае эмігрантам. Папулярныя цяпер у Амэрыцы стравы былі прывезеныя сюды эмігрантамі з усяго бадай сьвету.

Разам з разьвіцьцём Амэрыкі разьвіваліся ды расьлі й прынцыпы амэрыканскае свабоды й роўнасьці. Першыя словы славутае амэрыканскае „Канстытуцыі" гучаць гэтак: „усе людзі створаныя роўнымі". Амэрыканская філязофія роўнасьці ўсіх была асноўным штуршком да разбудовы магутнасьці амэрыканскае дзяржавы.

Ня дзіва таму, што кажная нацыянальная група тут, імкнучыся да свае нацыянальнае свабоды — дапамагала мацаваць і свабоду Амэрыкі. З ручаінаў і ручаінак паасобных нацыянальных групаў расло й дужэла ручво нацыі амэрыканскае. Аднак, амэрыканская канцэпцыя „Мэлтынг Пот" — „Пераплаўляльнага сагана" — ня вымагае цяпер заціраньня ці страты эмігрантамі іхных апрычоных нацыянальных традыцыяў. Наадварот, Амэрыканцы прызнаюць удзел у сваёй спадчыне ўсім народам, што спрычыніліся да пабудовы, на аснове іхных культураў, культуры амэрыканскае й амэрыканскага грамадзтва.

Прэзыдэнт Кенэды загінуў, працуючы над умацаваньнем амэрыканскае свабоды й роўнасьці, аднолькавых правоў усіх амэрыканскіх грамадзянаў. Беларусы страцілі ў ягонай асобе аднаго з найшчырэйшых сваіх сяброў ды прыхільнікаў. І хай летась, на пахованьнях на Арлінгтонскіх ваенных могілках у Вашынгтоне, ня было прадстаўніка БССР, але ўсё-ж на магілу быў ускладзены вянок ад імя ўсяго Беларускага Народу. Зрабілі гэта Беларусы-эміграты, каб выказаць свой жаль і сваю пашану да Джона Кенэды, выдатнага чалавека й дзяржаўнага мужа.

**В. К.**

# У 100-ЫЯ ЎГОДКІ СЕРЖПУТОЎСКАГА

У чырвені сёлета споўнілася роўна 100 год ад нараджэньня выдатнага беларускага этнографа, фальклярыстага й пісьменьніка Аляксандра Сержпутоўскага. Газэта „Літаратура і Мастацтва" за 19 чырвеня адзначыла гэты юбілей сьціплым артыкулам пад загалоўкам „Зь любоўю да свайго народу". І ўзапраўды, усё, што тварыў Сержпутоўскі на працягу свайго доўгага жыцьця (памёр у 1940 годзе), рабіў гэта із шчырай любоўю да свайго народу. Нажаль, яшчэ й сяньня належыць ён да найболыш забытых дзеячоў беларускае культуры. І ўспомнены юбілейны артыкул у „Літаратуры і Мастацтве" — гэта бадай першы й адзіны друкаваны голас аб Сержпутоўскім ад пачатку 30-ых гадоў.

Сержпутоўскі мочна вырозьніваўся спасярод зьбіральнікаў народнае творчасьці ўжо тым, што запісваў народныя казкі й апавяданьні не ад прыпадковых сялян, як гэта рабілі іншыя зьбіральнікі фальклёру. Наадварот, Сержпутоўскі вышукоўваў сярод народных баечнікаў найболыш уталентаваных самародкаў, якія, паводля ягоных-жа словаў у прадмове да аднаго із зборнікаў казак, пры другіх умовах сталіся-б нацыянальнай гордасьцяй". Запісаныя ад такіх баечнікаў казкі вызначаюцца высокімі мастацкімі якасьцямі й зьяўляюцца наскрозь літаратурнымі творамі, тым каштоўнейшымі, што пры сваей мастацкай форме яны захоўваюць аўтэнтычныя народныя сюжэты. Таму й ня дзіва, што баечніцы твораў, запісаных Сержпутоўскім, неаднаразова перадрукоўваліся ў розных зборніках, а лепшыя зь іх увайшлі ў школьныя хрэстаматыі.

Зьбіральніцкая дзейнасьць Сержпутоўскага ніколі ня мала ласкі ў бальшавікоў. Гэтак другі й найлепшы ягоны зборнік — „Казкі й апавяданьні Беларусаў Слуцкага павету",*) выдадзены ў 1926 годзе, меў тыраж усяго 500 экзэмпляраў. Ды неўзабаве пасьля свайго выхаду быў сканфіскаваны й цяперака зьяўляецца бібліграфічнай рэдакцыяй. Аднак нейкім шчасьлівым прыпадкам адзін экзэмпляр гэтага зборніка трапіў у Ньюёрскую Публічную Бібліятэку, зь якога мы гэтта й карыстаемся. Толькі цяперака, у ўспомненым нумары „Літаратуры і Мастацтва" даведваемся, за што быў сканфіскаваны гэты зборнік. Тамака чытаем: „Навет у лепшым зборніку казак ёсьць творы, ненародныя па сваім ідэйным зьмесьце". „Ненародныя" тут трэба разумець, як нясугучныя камуністычнаму сьветапагляду. Далей з успомненага артыкулу даведваемся, што „ў мінулае накіравана ягоная апошняя кніга, выдадзеная ў савецкі час". Гэтай кнігай, накіраванай у мінулае, быў зборнік Сержпутоўскага „Прымхі і забабоны Беларусаў - палешукоў", што выйшаў у 1930 годзе. І гэтая кніга адразу-ж была сканфіскаваная.

Іншым важным мамэнтам, зусім няведамым сяньняшняму беларускаму грамадзтву, ёсьць тое, што Сержпутоўскі быў ня толькі зьбіральнікам беларускага фальклёру, але й арыгінальным пісьменьнікам. Яшчэ ў 1904 годзе ён выдаў зборнік пад загалоўкам „Казкі", падпісаны ягонымі ініцыяламі А. К. (Аляксандар Казіміравіч). Зборнік зьмяшчаў пяць наступных арыгінальных апавяданьняў, напісаных на народныя сюжэты: „Клімко", „Вайна ваўка з сабакам", „Як дзяцел спагнаў сваю злосьць", „Мужык і пан", „Сучкін сын". Гэты зборнік — гэта першае выданьне беларускай мастацкай прозы ў пачатку бягучага стагодзьдзя. Сержпутоўскі й пазьней займаўся апрацаваньнем народных ка-

*) Першы зборнік Сержпутоўскага пад загалоўкам „Сказки и рассказы белорусов полешуков" быў выдадзены ў 1911 годзе.

## СУПЯРЭЧЛІВЫЯ МЯРКАВАНЬНІ ШТО ДА АДНАГО ПЫТАНЬНЯ

**Ад рэдакцыі:** Пад гэткім загалоўкам зьмешчаны артыкул у № 9 органу ЦК КПБ „Коммунист Белоруссии" за сёлетні год. Гэты артыкул перадрукоўваем ніжэй поўнасьцяй у перакладзе на беларускую мову, як асабліва характэрны й вымоўны для палітычнай сытуацыі ў паняволенай Беларусі. Камэнтары да гэтага артыкулу падаюцца ў тут-жа зьмешчаным нашым артыкуле „Вакол пытаньня Нашай Нівы".

Выступаючы на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных працаўнікоў, што адбылася ў красавіку леташняга году ў Менску, акадэмік Акадэміі Навукаў БССР Т. С. Гарбуноў прысьвяціў значную частку свае прамовы крытыцы памылковых пагляду некаторых навуковых працаўнікоў — пра газэту „Наша Ніва", што выходзіла на Беларусі ў дарэвалюцыйныя часы (1906-1915 гады) і была лібэральна-буржуазыйным, нацыяналістычным выданьнем. Прычыну да гэтае крытыкі стаўся артыкул, надрукаваны ў лютаўскім нумары часапісу „Полымя" за 1963 год. У вартыкуле, выходзячы з даволі сумлёнае аргумэнтацыі, сьцьвярджалася, быццам „Наша Ніва" мае перад гісторыяй некаторыя рэвалюцыйна-дэмакратычныя заслугі, што яна, маўляў, займалася прапагандай марксыцка-ленінскіх ідэяў у Беларусі, крытыкавала капіталістычныя парадкі, аграрную й нацыянальную палітыку царызму, бараніла інтарасы працоўных. Зрабіўшы гэткія вывады, аўтар спрабаваў высунуць пытаньне аб пераглядзе існуючае ацэны клясавага характару й палітычнай лініі газэты „Наша Ніва".

Апублікаваньне згаданага артыкулу ў часапісе — тав. Гарбуноў схарактарызаваў, як „буйную памылку", а ўчынак аўтара, што напісаў яго, назваў „абуральным".

Дазволім сабе працытаваць колькі месцаў з прыгаданае прамовы.

Прамоўца адзначыў, што аўтар зьмешчанага ў часапісе артыкулу „абвяшчае „Нашу Ніву" ледзь не марксыцкай газэтай, праз якую ў Беларусі распаўсюджваўся марксызм-ленінізм. Ён цьвердзіць, што ў рэдакцыі „Нашай Нівы" быццам былі ўплывовыя супрацоўнікі, што падзялялі марксыцкія пагляды, ніб „Наша Ніва" цалком правільна з марксыцкага гледзішча насьвятляла сутнасьць капіталістычных манопалій і г. д."

„У гісторыка - літаратуразедных працах і падручніках зь гісторыі літаратуры **ўжо даўно паданая навукова-абаснаваная ацэна гэтае газэты** (падкрэсьлена намі). Я ня буду паўтараць партыйную прэсу, дзе „Наша Ніва" характарызуецца, як лібэральна-буржуазыйная газэта. Газэта гэтая весьціла шлях дробных лібэральных рэформаў у вырашэньні задачаў буржуазыйнае рэвалюцыі. Падводзіла „базу", што ў Беларусі ня было клясавага змаганьня. Кіраўнікі „Нашай Нівы" былі буржуазнымі нацыяналістымі—Антон і Іван Луцкевічы, яны паходзілі з памешчыкаў і ў пэрыяд сацыялістычнай рэвалюцыі заканамерна апынуліся ў лягеры контррэвалюцыі".

Памылка аўтара „мае свае вытокі ў ягонай тэарэтычнай нясьпеласьці, у ягоных вельмі слабых, павярхоўных ведах прадмету, аб якім ён узяўся пісаць".

І далей прамоўца зазначыў, што публікацыяй гэткага роду артыкулаў „робіцца вялікая шкода справе выхаваньня нашае моладзі, **уносіцца блытаніна ў гістарычную й літаратуразедную навуку**", (падкрэсьлена намі).

Прыведзеныя вышэй вытрымкі ўзятыя із стэнаграфічнае справаздачы нарады (бач. 110-111).

Праз месяц пасьля рэспубліканскае нарады ідэялягічных працаўнікоў, у часапісе ЦК КПБ „Коммунист Белоруссии" група гісторыкаў Менску выступіла з артыкулам „Наўсуперак гістарычным фактам", у якім яшчэ больш абаснавана паказала ўсю памылковасьць публікацыі „Полымя" аб „Нашай Ніве". На канкрэтных прыкладах аўтары пераканальна давялі, што ніякіх дачыненьняў да прапаганды марксызму-ленінізму ў Беларусі „Наша Ніва" ня мела. Наадварот, гэтая газэта суджала рэвалюцыйную барацьбу рабочае клясы, выступала супраць забастоўкаў, заяўляла, што страйкі шкодныя і для капіталістых і для працоўных, запэўняла, што працоўныя могуць дамовіцца з капіталістымі аб узаемных суступках. Газэта намаўляла сялян „не націскаць на памешчыка", запэўняла, што „спакойным змаганьнем і лягчэй, і карысьней дамагацца лепшага жыцьця"... Навет самы кіраўнікі „Нашай Нівы" ціраз казалі, што іхны рух ня мае нічога агульнага з рэвалюцыяй.

„Памылковая спроба, — пісалі гісторыкі, — выдаць буржуазна-лібэральную й нацыяналістычную „Нашу Ніву" за рэвалюцыйную газэту, якая быццам-бы прапагавала марксыцкія ідэі ў Беларусі, ня толькі выкрыўляе гістарычную праўду, але, калі яе пакінуць бяз увагі, можа ўнесьці шкодную блытаніну ў гісторыка-эканамічную й літаратуразедную навуку" („Коммунист Белоруссии", № 5 за 1963 г., бач. 69).

Часапіс „Полымя", ідучы за добрай традыцыяй нашае савецкае прэсы, перадрукаваў артыкул з „Коммуниста Белоруссии" і гэтым самым нібы выправіў зробленую памылку. Здавалася-б, усё ясна. Але...

Зусім нечакана ўзьнікла „але". І мы ўзноў прымушаныя вярнуцца да пытаньня аб „Нашай Ніве".

Справа ў тым, што нядаўна выдавецтва „Наука" ў Маскве выпусьціла ў сьвет двутомнік, прысьвечаны 400-годзьдзю расейскага друкарства. У першым томе зьмешчаны невялікі артыкул „Друкарства ў Беларусі канца XIX—пачатку XX в"., у якім зноў-ткі „Нашай Ніве" прыпісваюцца вялізныя заслугі. Вось што пішацца ў кнізе:

„У гісторыі змаганьня беларускага народу **за стварэньне свае дзяржаўнасьці**, а таксама за стварэньне народнай нацыянальнай літаратуры, „Наша Ніва" **адыграла важную ролю**", (падкрэслена намі). Яна імкнулася несьці ідэі нацыянальнае свабоды й незалежнасьці ў асяродзьдзе сваіх чытачоў, сталася цэнтрам беларускай літаратуры..." (бач. 565).

„Газэта мела цесную сувязь з народнымі масамі, заўсёды ймкнулася іх мацаваць і пашыраць" (бач. 566).

„На першы плян газэта паставіла сацыяльная й палітычная патрабаваньні" (там-жа).

„Газэта „Наша Ніва" **садзейнічала развіцьцю рэвалюцыйнае сьвядамасьці працоўных масаў**" (падкрэслена намі).

„Наша Ніва" прапагавала **ідэю задзіночанае барацьбы ўсіх працоўных супраць царызму.** Правільна будзе ацаніць „Нашу Ніву", як **саюзьніка бальшавіцкага друку ў тыя часы**". (падкрэслена намі).

Хто-ж даў гэткія ўсхваляваньня ацэны лібэральна-буржуазнай, нацыяналістычнай газэце? Да каго належыць гэты артыкул? Выяўляецца, аўтарам ягоным ёсьць акад. Т. С. Гарбуноў. Супярэчлівыя меркаваньні тав. Гарбунова наконт аднае й тае-ж справы, выклікалі шмат у каго з чытачоў вялізнае зьдзіўленьне. І гэта натуральна. Гэткія бо адвольныя тлумачэньні адно дэзарыентуюць грамадзкасьць, уносяць блытаніну ў навуку. Узьнікае пытаньне: чаму-ж верыць, што ў большай меры адказвае гістарычнай праўдзе, — тое, — што казаў тав. Гарбуноў увесну мінулага году на нарадзе, ці тое, што зьмешчана ў кнізе сёлета?

Нам здаецца, што перш, чымся даваць нейкую новую ацэну, трэба давесьці памылковасьць ці застарэласьць папярэдняе ацэны. А ў дадзеным выпадку ранейшая ацэна „Нашай Нівы", як цьвердзіў сам тав. Гарбуноў, ёсьць „навукова абгрунтаванаю". Які-ж сэнс адкідаць сяньня гэтую навукова абгрунтаваную ацэну „Нашае Нівы" й даваць нейкую новую? Тымболыш, што яна нічым не абгрунтаваная — ні аналізам канкрэтных матар'ялаў, надрукаваных у газэце, ні архіўнымі дакумэнтамі.

**М. Козыр**

*ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ БІСКУПУ ЧАСЛАВУ СІПОВІЧУ*

ROMA, VIA CORSICA 1, ITALY

*Беларускае Каталіцкае Згуртаваньне „РУНЬ", Аддзел Ню Ёрк, шчыра вітае Вас у 50-ыя ўгодкі Вашага жыцьця й жадае Вам добрага здароўя, памыснасьці й далейшай плённай працы на славу Богу й на дабро Беларускага Народу.*

*Шмат год!*

*Франціш Бартуль*
Старшыня

*Яніна Кахаwоўская*
Сакратар

*Нью Ёрк, 25 лістапада 1964 г.*

# Вакол пытаньня „Нашай Нівы"

Перадрукаваны гэтта з „Коммуниста Белоруссии" артыкул „Супярэчлівыя меркаваньні ў вадным пытаньні" закранае вельмі важную справу, што датычыць „Нашай Нівы" й нашаніўства.

„Наша Ніва" й увесь нашаніўскі рух быў камуністычнай партыяй засуджаны, як рэакцыйны й нацыяналістычны, а тым самым супярэчны камуністычным ідэям. Гэткі пагляд быў агульнаабавязваючы і бездыскусыйны. Але ў сувязі з пасьлясталінскай „адлігай" пачалася была ў Савецкім Саюзе пераацэнка некаторых цэннасьцяў ды частковая рэгабілітацыя раней засуджаных зьяваў. У працэсе гэтага рэгабілітацыйнага руху ўзьнікла было й пытаньне перагляду дагэтуляшніх ацэнак „Нашай Нівы" й нашаніўства.

Першым падняў гэтае пытаньне літаратуравед Міхал Ларчанка ў артыкуле „Некаторыя пытаньні гісторыі беларускай літаратуры", надрукаваным у газэце „Літаратура і Мастацтва" за 17 лістапада 1956 году. Ён патрабаваў грунтоўнага перагляду адмоўнай ацэны такіх нашаніўскіх пісьменьнікаў, як К. Каганец, Ядвігін Ш. і А. Гарун, якія, паводля Ларчанкі, у „сваёй дакастрычніцкай творчасьці былі ўвасноўным прагрэсыўнымі пісьменьнікамі".

Што-ж датычыць да „Нашай Нівы", дык, на думку Ларчанкі, на ейных бачынах „выступалі прадстаўнікі супрацьлеглых напрамкаў". Калі „ў публіцыстыцы, — пісаў Ларчанка, — задавалі тон буржуазныя нацыяналісты, лібэралы-рэфарматары", дык у мастацкай літаратуры „група рэвалюцыйна-дэмакратычных і прагрэсыўных пісьменьнікаў надавала „Нашай Ніве" дэмакратычны характар, рабіла яе папулярнай сярод народу, ставіла важныя пытаньні для развіцьця беларускай нацыянальнай культуры і літаратуры, словам, рабіла газэту прагрэсыўнай, патрэбнай і карыснай".

Супраць спробаў Ларчанкі, пры гэтым даволі яшчэ асьцярожных, рэгабілітаваць „Нашу Ніву", паднялася цэлая бура. Адразу пасьля надрукаваньня Ларчанкавага артыкулу выступілі былі на бачынах менскае „Зьвязды" партыйныя гісторыкі Л. Абэцэдарскі й А. Сідарэнка з артыкулам пад вымоўным загалоўкам „За ідэйную чыстату нашых літаратурных пазыцыяў". Супраць спробаў Ларчанкі падняліся былі галасы на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР у сакавіку 1957 году, а такжа на 4-ым Зьезьдзе пісьменьнікаў БССР у лютым 1959 году. Супраць патрабаваньняў Ларчанкі выступілі такія пісьменьнікі, як П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва й іншыя ды навет сам першы сакратар ЦК КПБ К. Мазураў, закідаючы Ларчанку зробленыя ім „прынцыповыя памылкі".

Далейшы ход дыскусіі ў справе „Нашай Нівы" перадае перадрукаваны тут артыкул з „Коммуниста Белоруссии".

Асабліва характэрнай зьявай у гэтай дыскусіі ёсьць узаемна супярэчлівыя выступленьні Т. Гарбунова. Т. Гарбуноў — гэта ня так сабе звычайны навуковы працаўнік, але адзін з партыйных лідэраў Беларусі, былы сакратар, а цяперака сябра ЦК КПБ. Як-жа тады выясьніць гэткія супярэчныя ацэны „Нашай Нівы", дадзеныя Гарбуновам на працягу ўсяго аднаго году?

Трэба думаць, што сам Гарбуноў будзе зьмушаны забраць у гэтым пытаньні голас. Скіраваны „Коммунистом Белоруссии" супраць яго закід нагэтулькі цяжкі, што з гледзішча на займаную ім пазыцыю ў партыі ён ня зможа абмінуць гэтага пытаньня маўчаньнем. Але пакуль будзе гэта ім зроблена, пастараемся адказаць на гэтае пытаньне мы.

Вось-жа, на нашую думку, Гарбуноў, рэвідуючы собскую ацэну „Нашай Нівы", папрабаваў пайсьці з духам часу. Агульная тэндэнцыя пераацэнкі цэннасьцяў, якая штораз шырэй праводзіцца ў Савецкім Саюзе, і паступовае прыбліжэньне да аб'ектыўнай праўды ў вацэне некаторых гістарычных зьяваў, відаць, далі аснову Гарбунову шчыра выказаць свой пагляд на „Нашу Ніву". Як працаўнік навукі й акадэмік, Гарбуноў уважаў, відаць, за патрэбнае адкінаць свае ранейшыя, гаворачы славамі „Коммуниста Белоруссии", „устарэлыя" ўжо сяньня пагляды на характар і ролю „Нашай Нівы".

Пры гэтым, Гарбуноў у сваім артыкуле, зьмешчаным у кнізе з нагоды 400-годзьдзя расейскага кнігадрукаваньня, ня йдзе ў ацэне „Нашай Нівы" так далёка, як робіць гэта Мікола Верабей у лютаўскім нумары „Полымя" за 1963 год, супраць чаго два месяцы пазьней выступіў быў Гарбуноў на рэспубліканскай нарадзе ідэялягічных работнікаў.

Верабей намагаўся, між іншага, давесьці, што „Наша Ніва" сьвядома прапагавала на сваіх бачынах марксыцка-ленінскія ідэі. Тут Верабей моцна перацягнуў струнку, бо „Наша Ніва", як выказьніца беларускай нацыянальна-адраджэнскай ідэялёгіі, ня мела нічога супольнага з марксызмам-ленінізмам.

Гэтага ня прыпісвае „Нашай Ніве" й Гарбуноў у сваім апошнім, ужо зрэвідаваным выступленьні ў справе „Нашай Нівы". Ён, пералічыўшы зусім аб'ектыўна нацыянальна-палітычныя заслугі „Нашай Нівы" ў беларускім адраджэньнскім руху, зусім ня зьвязаныя з максызмам-ленінізмам, адно цьвердзіць: „Правільна будзе ацаніць „Нашу Ніву", як спадарожніка", бальшавіцкага друку ў гэныя часы". Пэўне-ж, некаторыя ідэі, выказваныя ў „Нашай Ніве", не пярэчылі адпаведным ідэям бальшавіцкага руху, будучы сугучнымі з гэтымі апошнімі. Але гэта зусім не абазначае, што „Наша Ніва" ставіла сабе мэтай быць „саюзьнікам бальшавіцкага друку", як робіць канчатковы вывад Гарбуноў.

Артыкул у „Коммунисте Белоруссии" не падпісаны. Значыцца, гэта артыкул рэдакцыйны. А гэта довад, што ЦК КПБ, афіцыйным органам якога ёсьць „Коммунист Белоруссии", у дачыненьні да „Нашай Нівы" й нашаніўства стаіць на старых, узаконеных яшчэ за часоў культу асобы Сталіна пазыцыях.

**Алесь Крыга**

# Сёе—тое

Сёлета вясной і ўлетку часапіс „Полымя" й газэта „Літаратура і Мастацтва" прысьвяцілі цімала месца гутаркам пра беларускую мову. Гутаркі, вядома-ж, пад наглядам няспрыяльнага партыйнага вока, не разгарнуліся на поўную шырыню, дый былі даволі стрыманымі, абмежаванымі. Адылі асабліва цікавымі й зьмястоўнымі, на нашу думку, былі артыкулы Янкі Скрыгана й Максіма Лужаніна. Відаць,што пытаньне ня толькі чысьціні беларускае мовы, але й культуры наагул турбуе як старэйшых, так і маладзейшых. У гэтым сьвятле асабліва характэрны й цікавы ліст групы студэнтаў менскага БДУ ім. Леніна, зь якога прыводзім вытрымку:

„Мы займаемся на беларускім аддзяленьні філялёгічнага факультэту БДУ імя Ул. І. Леніна й кажны дзень маем справу з вывучэньнем гісторыі беларускае літаратуры, з кнігамі нашых пісьменьнікаў як старэйшага, так і малодшага пакаленьня. І вось часам сутыкаемся зь непажаданымі цяжкасьцямі.

У вапошнія гады, пасьля XX і XXII зьездаў партыі, карэнным чынам перагледжана гісторыя беларускае літаратуры. Але, на жаль, мы й цяпер ня маем выданьняў шмат якіх твораў нашай літаратурнай спадчыны. Пры вывучэньні публіцыстыкі Кастуся Каліноўскага даводзіцца гартаць старыя кнігі, каб знайсьці тэксты ягонай „Мужыцкай Праўды", а вывучаючы Ядвігіна Ш. — адшукваць яго зборнік 1946 году выданьня. Да гэтага часу не перавыдадзена чамусьці й першая граматыка беларускай мовы Браніслава Тарашкевіча. Ня маем мы магчымасьці пазнаёміцца і з публіцыстыкай гэтага буйнага вучонага й грамадзкага дзеяча.

Акадэміі навук рэспублікі, Саюзу пісьменьнікаў варта таксама, на наш погляд, перагледзець і адносіны да творчасьці Алеся Гаруна. Вядома, у яго былі памылкі й хібы, але-ж нельга, думаецца, закрэсьліваць творчасьць паэты цалкам. Не закрэсьліваем-жа мы творчасьці Буніна, Белага, Купрына, Цьвятаевай".

Беларускім студэнтам мо й няведама, што гэта якраз „родная партыя" ў трыццатых гадох пусьціла з дымам творы Алеся Гаруна, Тарашкевіча дый цімала іншых „нацдэмаўскіх" твораў, гэтым аж да культурнага жабрацтва агаляючы паняволены беларускі народ. Калі-ж, як мяркуюць вышэйпадпісаныя студэнты дый іншыя мілёны беларусаў, гэта самая партыя цяперака палепшала, карэнным чынам перагледзела ня толькі гісторыю беларускае літаратуры, але й наагул адраклася нялюдзкіх дачыненьняў да народу й яго культуры, дык на доказ гэтага „роднай партыі" адно застаецца перавыдаць ці іншымі шляхамі зьвярнуць народу зрабаваныя скарбы, аднавіць сьвятыні, рэгабілітаваць пакрыўджаных і нясьлушна апаганеных тварцоў культуры.

Ці „родная партыя" зробіць гэта? Скарэй, — казаў той „бышы чалавек" Хрушчоў, — сьлімак сьвісьне.

**
*

Доўгі час на бачынах „Літаратуры і Мастацтва" трывала дыскусія пісьменьнікаў і крытыкаў пра цяперашні бээсэсэраўскі сацрэалістычны раман. Палеміка гэта, што старалася трымацца ў рамах вузкой барадатай марксыстоўскай догмы, нас, вольных людзей, магла-б заціквіць ці навет заінтрыгаваць, калі-б у ёй проста ці бокам закраналася справа свабоды пісьменьніка ў творчасьці. Ды пытаньня такога наагул ня было. Усе, згодна партыйнага наказу, ні вады ў раты панабіраўшы, маўчалі пра гэта, заміж таго карпатлівага варочаючы трасянку няпрыгнадных аспэктаў няжыцьцёвага сацрэалізму.

Адылі, кажуць, дзе п'юць там і льлюць. Дык і ля гэтай бээсэсэраўскай трасянкі некаторым чытачом пашанцавала слова ўзяць. Із тых „шылаў, што вылезьлі наверх", найцікавейшае „лідзкае шыла".

Настаўнік І. Лешанюк зь Лідзкага раёну піша ў „Літ. і Маст." за 25-га верасьня п. заг. „Чаму маўчаць лідзкія чытачы":

„Каб высьвятліць гэта (чаму маўчаць чытачы, — М. К-р), я наведаў некалькі бібліятэк лідзкага раёну. Тое, што я там пачуў і пабачыў, мяне шчыра засмуціла. Гутарыў я, напрыклад, з загадчыцай Нагародавіцкай сельскай бібліятэкі Верай Міхалевіч. Пытаю: — „Крыніцы" Шамякіна ў вас ёсьць? — Няма. — А „У добры час"? — Няма. — Па якой кніжцы беларукага пісьменьніка праводзілі вы сёлета канфэрэнцыю чытачоў? — Пакуль што не праводзілі.

Пацікавіўся, што ёсьць наогул зь беларускай літаратуры ў бібліятэцы. Аказалася, амаль нічога. Пра навінкі й гаварыць не даводзіцца. Чаму? Вера Міхалевіч тлумачыць:

—Адпусьціць сельсавет грошы — я еду ў кнігарню. Там бяру тыя кнігі, якія прапаноўваюць. Адкуль мне ведаць, якая зь іх патрэбная, якая не . . .

**"YELLOW RUSSIA"**

(Заканчэньне з 3-яй бач.)

ная, дык павінен быць і нейкі плян працы і час прадугледжаны.

Ёсьць вартасьці характару больш часовага й характару трывалкага. Да першых належаць у першую чаргу нашы эміграцыйныя арганізацыі й інстытуцыі. На дамы, маёмасьць мы выдаём вялікая грошы. І ў гэтых дамох, у арганізацыях часта няма зьместу, бо шкадуем грошай на вартасьці трывалкія, такія, як добра апрацаваныя кнігі, літаратура мастацкая, наагул інфармацыйна-навуковы матар'ял. Калі так, то благія мы гаспадары, бо будуем, наладжваем рамы, а ў тыя рамы не даём зьместу. Дый ня трэба забываць, што гэтыя трывалкія вартасьці, як навука, літаратура, ёсьць укладам у скарбніцу **беларускага народу, а ня толькі эміграцыі.**

Варта вось над гэтым ня толькі задумацца, але й за працу ўзяцца.

**К. Акула**

# СУМНЫЯ ВЕСТКІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Нядаўна ў Амэрыку прыехаў малады хлапец. Нарадзіўся й вырас ён у Лідзе, а ў 1957-м годзе, маючы 18 год, выехаў у Польшчу, дзе й жыў дагэтуль. Хоць ён і пакінуў Беларусь ужо сем год таму, але весткі аб жыцьці нашых суродзічаў у пасьляваенныя гады вельмі цікавыя для нас і сяньня. Таму, сустрэўшыся з новым „Амэрыканцам", мы пачалі распытваць яго аб тым ды гэтым.

— **Як жывуць нашыя людзі ў Беларусі** — спыталіся мы перадусім. Адказ быў даволі нечаканы: Зусім ня так, як некалі, да вайны. Бо сягоньня ў Беларусі між людзьмі, даўнейшымі суседзямі й сябрамі, пануе недавер і навет страх. Кажны кажнага баіцца, каб не ачарніў, не данёс на яго ў ведамую ўстанову. Гэта асабліва заўважаецца ў Заходняй Беларусі. Тутака, зараз пасьля вайны адбыліся вялікія перамены. Шмат людзей, што спрадвеку жылі на роднай зямлі, але чамусьці здаліся цяпер уладам няпэўнымі, а таксама Палякі, Украінцы — былі зь Беларусі высланы ці вывезеныя. На іхнае месца прывезьлі з цэнтральнае Расеі Расейцаў, не адно партыйных ці ўрадаўцаў, але й звычайных „пралетараў" — работнікаў, настаўнікаў. Гэта была неабходная з гледзішча камуністычнае ўлады мера, бо адно ў выніку гэткага перамяшаньня жыхарства ўдалося ёй „супакоіць" Заходнюю Беларусь. Аж да 1956-го году тут зь вялікай удачаю дзейнічалі ў лясох г. зв. „банды" — антыкамуністычная партызанка. Што дзейнічалі яны з удачаю, сьветчыць тое, што ня было бадай тыдня, каб яны не забілі колькі чалавек з адмысловага палку энкавэдыстых, раскватараванага ў самым цэнтры гораду. Блізу штовечару суседзі чулі, як гулі машыны, брахалі сабакі — гэта энкавэдыстыя выяжджалі ў лес на змаганьне з „партызанамі". Пасьля сьмерці Сталіна полк гэты быў зьліквідаваны, бо й „банды" пакрысе спынілі сваю дзейнасьць.

Прыежджыя з Расеі грамадзяне дрэнна зжываліся зь мясцовым беларускім жыхарствам. Спадылба глядзелі адны на адных ня толькі дарослыя, але й дзеці, вучні мясцовых школаў. У клясе, дзе вучыўся наш хлапец, была палова вучняў Беларусаў, пяць Палякаў, а рэшта — Расейцы. „Рускія" гэтыя звалі заходнікаў „пшэкамі", а яны іх „кацапамі", склаўшы ў дадатак ня зусім цэнзурную песьню, якую часта пад адрысам гэтых „рускіх" сьпявалі. Канчалася гэта бадай заўсёды бойкаю, прычым школьныя ўлады пераважна прызнавалі праўду за „рускімі". Гэткая ненавісьць і недавер паміж вучнямі — існавалі ў школе напрацягу ўсіх год, што наш „эмігрант" у ёй вучыўся.

На нашае пытаньне, **як стаіць цяпер у Беларусі справа з рэлігіяй,** — адказ быў гэткі:

— У горадзе засталіся толькі адзін касьёл і адна царква. Але касьцёл доўга стаяў замкнёны — ня было ксяндза. Толькі ў 1952 годзе, на сёмы год па вайне, вярнуўся сюды зь Сібіру стары ксёндз, які й пачаў штонядзелі адпраўляць імшу. За гэта трэба было плаціць дзяржаве вялізны падатак, але людзі плані ксяндзу, які быў вельмі добры для зрабіць такой прыкрасьці ні маці, цілі. У касьцёл прыяжджалі людзі за 50 і 60 кілямэтраў, бо другога касьцёлу нідзе ў ваколіцы ня было. Ксёндз меў права даваць шлюбы, хрысьціць, адпяваць нябожчыкаў. Але праводзіць труну зь нябожчыкам на магілкі — яму ўжо не дазвалялася. Таксама былі забароненыя й вулічныя працэсіі. Працэсія на „Божае Цела", прыкладам, мусіла адбывацца ўнутры касьцёлу, перапоўненага вернікамі так, што ня было дзе йголцы ўпасьці.

Рэлігія ў школах была забароненая ад першага-ж дню. Дзецям так і было сказана: або школа, або царква. Дзяцей прымушалі йсьці ў камсамол. Мацнейшыя даўжэй трымаліся, не запісваліся, але нарэшце, пераканаўшыся, што ня быўшы камсамольцамі, школы яны ня скончаць, запісваліся й яны. Прыканцы навучальнага году з усяе клясы па-за камсамолам застаўся адно наш хлапец. Ён паходзіў з рэлігійнае каталіцкае сям'і, ад малых год служыў у касьцеле „да ймшы" й не хацеў, ня мог, — як ён сказаў, — іхнае асірацелае сям'і. За сваю стойкасьць ён вельмі цярпеў. Вучыўся й захоўваўся ён у клясе добра, але што-б ня здарылася — настаўнікі абвінавачвалі перадусім яго. Пагражаў яму дырэктар і звальненьнем із школы. Нарэшце, у канцылярыю выклікалі маці хлапца. Што ёй казаў дырэктар, яна ніколі сыну ня прызналася. Але яна мусіла падпісаць дазвол сыну ўступіць у камсамол. І яго запісалі. Але й тут ён ня здаўся. Ведаючы, што камсамольцам ня можна было мець двойкаў, ён перастаў адрабляць лекцыі. Набраўшы „двойкаў", ён мусіў іх паправіць. А пакуль гэта зробіць, быў у камсамоле „завешаны". Тымчасам вярнуўся зь лягеру, зь Сібіру бацька. Сям'я пачала стараньні ,каб выехаць у Польшчу, і так хлапцу ўдалося перайсьці ў дзявятую клясу сярэдняе школы, ня будучы дзейным камсамольцам.

Штонядзелі пад касьцёл і царкву хадзілі дзяжурныя камсамольцы з „тайнага" актыву камсамолу. Яны „лавілі" тых вучняў, што йшлі маліцца, і тады тыя мелі вялікія прыкрасьці. Аднак, дзяцей у іхным горадзе маткі ды бабулі, пераважна хрысьцілі, часта ў таямніцы перад бацькам, каб ня было якіх прыкрасьцяў на працы.

На нашае пытаньне аб **бытавых умовах жыцьця на Беларусі,** — хлапец уздыхнуў і сказаў, што жыцьцё гэтае было ўвесь час, пакуль ён ня выехаў з роднага места ў 1957-м годзе, — проста жахлівае. Па хлеб трэба было стаяць у чарзе па 12-14 гадзін. Пад хлебныя крамы людзі прыходзілі і прыяжджалі яшчэ зь вечару за 50 і больш кілёмэтраў. Хлеб быў вельмі благі, недапечаны, пакуль выбярэшся зь ім з натоўпу, абяртаўся ў важкія кавалкі цеста. Цукар давалі адно двойчы ці тройчы на год па поў-кілё на душу, перад вялікімі сьвятамі, як Першы Май ды Ўгодкі Кастрычніка. Бульбы ў крамах не прадавалі. Яе даводзілася за дарагія грошы купляць на рынку або ў калгасах. Таму зарплаты хапала людзям адно на поў месяца. Другія поўмесяцы даводзілася галадаваць і сяк-так выкручвацца. Бадай усе, найбольш навет чэсныя й паважныя людзі — кралі што мага й дзе мага. Жылі дрэнна й прыежджыя радавыя Расейцы. Ім даводзілася навет горш, чымся мясцовым, бо ня было кватэраў. Па колькі сем'яў жылі ў ваднным пакоі. Партыйныя, аднак, мелі асобныя „тайныя" пайкі й жылі добра.

Галадавалі людзі й на вёсцы. Дзядзька хлапца жыў у калгасе ля мясцовасьці Масты. Ён і шмат ягоных аднавяскоўцаў ратаваліся кражай калгаснага збожжа, жменька да жменькі, зь якога гналі ў лесе самагонку. За атрыманыя ад праданае самагонкі грошы куплялі ў горадзе хлеб. Наагул, — скончыў сваю справаздачу хлапец, — жыцьцё нашых людзей у першыя дзесяць год пасьля вайны ня можна зь нічым параўнаць. Акрэсьліць яго можна было адным словам: „пакута". Кажны камбінаваў адно. каб недзе нешта дастаць і на гэта йшла ўся людзкая энэргія. Людзям проста ў кроў увайшлі кражы. Красьці — было ўжо не грахом, як некалі, а ледзь ня добрым учынкам, удачаю. Гэтак патрапіў панявольнік зьмяніць мараль Беларуса!

На нашае пытаньне, **як стаіць на бацькаўшчыне справа зь беларускаю моваю**, новы эмігрант сказаў, што ў іхным месьце, Лідзе чуваць было на вуліцы адно расейскую мову. У хаце, аднак, і на вёсцы, людзі міжсобку, у сям'і, падаўнейшаму гаварылі пабеларуску. На восем школаў у іхным месьце — толькі адна была беларуская, рэшта — расейскія. Зь беларускай школы цяжка было пастуціць у вышэйшую навучальную ўстанову. Таму, хто хацеў вучыцца далей, ужо загадзя йшоў у расейскую сярэднюю школу. Навука ў сярэдняй школе, у галіне матэматыкі й прыродаведных навукаў, стаяла досыць высока. Затое, вельмі дрэнна стаяла гісторыя. Прыкладам, у год сьмерці Сталіна, экзамэнаў зь гісторыі ў іхнай школе зусім ня было, бо гісторыю мусілі перарабляць. Бальшыня вучняў, ня маючы з чым параўняць выкладаныя ім гістарычныя факты, верылі таму, што іх вучылі. Галоўнаю асноваю вучанае імі ў школе гісторыі было тое, што ўсё найбольш гераічнае і найбольш разумнае — прыпісвалася Расейцам. Вучні былі запалоханыя, баяліся пярэчыць чамуколечы й моўчкі прыймалі навет тое, чаму ўжо ніяк верыць не маглі. На вёсках шмат дзяцей узімку ў школы не хадзіла, бо ня мелі вопраткі й абутку, каб хадзіць вучыцца за 4, 5, а часта й больш кілямэтраў.

Вельмі дрэнна было з працай для выпускнікоў. Скончыўшы сярэднюю школу, трэба было йсьці на хвабрыку, бо „інтэлігентных" пасадаў ня было. На адно вольнае месца — было па 80 — 100 чалавек кандыдатаў. Калі хто трапляў у вышэйшую школу, часта губляў там здароўе назаўсёды, бо жыцьцё стдудэнтаў „Вуз"-аў было вельмі цяжкое. Скончыўшы вышэйшую школу, яны на Беларусі пераважна не заставаліся, а ехалі на Сібір ды Камчатку. Пры паступаньні ў „Вуз" — вельмі пільна „прасейвалі". Калі хто прызнаваўся да сваякоў замяжой, у Ангельшчыне, Амэрыцы, — меў і з навукай, і з пасадай у Беларусі — вялізныя цяжкасьці.

Гэткае было жыцьцё на Беларусі яшчэ ў 1957 годзе. Ці шмат яно зьмянілася сягоньня — вельмі сумлеўна. Жыцьця на Беларусі ня можна, паводля словаў нашага маладога інфарматара, параўняць навет з жыцьцём у камуністычнай Польшчы. Калі ён пераехаў з бацькамі польска-савецкую мяжу, яго нязвычайна зьдзівіла тое, пра што людзі міжсобку спакойна гутарылі. Польская „свабода" здалася яму фактам проста „не да веры".

# ВАЖНАЕ ГРАМАДЗКАЕ ДАСЯГНЕНЬНЕ



Вось гэтыя два зусім аднолькавыя трохпавярховыя дамы, што бачым на фотаздымку, сталіся цяпер беларускай грамадзкай собскасьцяй. Яны, пасьля двухгадовых пошукаў, купленыя ў палавіне лістапада сёлета Фундацыяй імя Пётры Крэчэўскага за суму 180.000 даляраў.

Абодвы дамы мураваныя, зусім новыя, яшчэ выканчваюцца ў сярэдзіне. Ад палавіны сьнежня яны ўжо будуць поўнасьцяй гатовыя для ўжытку. Кажны з дамоў мае па чатыры шасьціпакаёвыя й па два трохпакаёвыя жыльлёвыя памешканьні ды па два гаражы. Увесь ніжні паверх аднаго з дамоў мае быць адведзены для Беларускага архіву й бібліятэкі, Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, навуковага выдавецтва й іншых беларускіх арганізацыяў і ўстановаў. Там-жа будзе й невялікая заля для ладжаньня нацыянальных і культурных імпрэзаў. Усе-ж іншыя памешканьні будуць наймацца для жыльлёвых мэтаў. Чысты даход ад гэтых будынкаў будзе прызначаны на беларускія нацыянальныя патрэбы.

Урачыстасьць уваходзінаў у свае собскія грамадзкія будынкі плянуецца спалучыць із сёлетнім спатканьнем Новага Году.

Гэтыя дамы знаходзяцца ў раёне Джэмэйкі Нью Ёрку. Яны займаюць цэлы блёк (квартал) між 167 вуліцай, Готык Роад і гарадзкім паркам. Гэта вельмі прыгожы, спакойны й поўны зелені ўзгоркавы раён. Адгэтуль вельмі выгаднае спалучэньне зь іншымі часткамі Вялікага Нью Ёрку. Да найбліжэйшай сабвэйнай станцыі лініі Квінс (Індэпэндэнт сыстэмы цягнікі „Ф" і „Е"), што йдзе на Мангэтэн, усяго 5 мінут хады. Да сабвэйнай станцыі пры 168 вуліцы лініі Джэмэйка („БМТ" сыстэмы), што перасякае ўвесь Бруклін, роўна 10 мінут хады. Ня больш, як 10 мінут хады й да аўтабуснай станыці пры 165 вуліцы, скуль расходзяцца аўтабусы ў розных кірунках.

Набыцьцё гэтых дамоў — гэта вялікае нашае грамадзкае дасягненьне. Зь яго астаецца адно цешыцца й старацца, каб яго як найшырэй выкарыстаць дзеля ажыўленьня й разьціцьця нашага нацыянальнага жыцьця ў Нью Ёрку.

# У 20-ыя ўгодкі сьмерці Зьмітрака Астапенкі

Сёлетняй восеняй спаўняецца дваццаць год ад сьмерці беларускага паэты Зьмітрака Астапенкі.

Зьмітрок Астапенка нарадзіўся ў лістападзе 1910 году ў вёсцы Калесьнікі Хіславіцкага раёну Смаленскай вобласьці ў сям'і настаўніка. Пасьля сканчэньня ў 1929 годзе пэдагагічнага тэхнікуму ў Мсьціслаўлі, Астапенка пераехаў у Менск. Там ён працаваў у рэдакцыях беларускіх газэт і часапісаў ды займаўся літаратурнай творчасьцяй. Першыя ягоныя вершы зьявіліся ў друку ў 1926 годзе. У 1931 годзе выйшлі два зборнікі ягоных вершаў — „На ўсход сонца" й „Краіне", а ў 1932 годзе — зборнік „Абураньня".

У 1933 годзе Зьмітрок Астапенка, разам з Лукашом Калюгам, Андрэем Мрыем, Максімам Лужанінам ды іншымі паэтамі й пісьменьнікамі, быў арыштаваны, як „нацыяналдэмакрат" і высланы ў лягер прымусовае працы. Калі-ж выбухнула савецка-нямецкая вайна, Астапенка быў у 1942 годзе забраны ў армію й кінуты на фронт. Часапіс „Полымя", у нумары 5-ым за 1957 год, паведаміў, што Астапенка ў 1944 годзе „загінуў сьмерцю храбрых у змаганьні супраць фашысцкіх захопнікаў".

Нам, аднак, ведамыя некаторыя цікавыя мамэнты зь біяграфіі Астапенкі, што беспасярэдня папярэдзілі й магчыма мелі сувязь зь ягонай сьмерцяй. Увосені 1944 году ў рэдакцыю расейскай антысавецкай газэты „Народная воля", што выдавалася ў Бэрліне, прыйшоў па пошце ліст ад Зьмітрака Астапенкі із Славаччыны, дзе тады праходзіў фронт. Астапенка прасіў рэдакцыю расейскае газэты перадаць ягоны ліст Беларусам, што й было рэдакцыяй зроблена. У гэным лісьце Астапенка пісаў даслоўна наступнае: „Знаходжуся ў Славаччыне на нямецкім баку фронту. Іду на Захад. Ня ведаю, ці астануся жывым. Няхай памагае мне Бог."

Відаць, Астапенка стыкнуўся, ужо на нямецкім баку фронту, з вайсковымі або цывільнымі Расейцамі, ад якіх і даведаўся адрыс расейскае бэрлінскае газэты. Усяж гэтая гісторыя паказвае, што паэта не „загінуў... у змаганьні супраць фашысцкіх захопнікаў", як паведамлялася ў часапісе „Полымя". Ён або сам перайшоў на гэты бок фронту, або, папаўшы ў вакружэньне, замісь прабірацца да сваей часьці, на ўсход, ён пайшоў на захад. Далейшая ягоная доля й абставіны сьмерці астаюцца пакуль што загадкавымі.

У ўспомненым 5-ым нумары „Полымя" за 1957 год надрукаваная паэма Астапенкі пад загалоўкам „Эдэм". У рэдакцыйнай зацемцы „Полымя" гаворыцца, што гэтую паэму, напісаную ў франтовых абставінах у 1944 годзе. Рэдакцыя нядаўна атрымала ад родзічаў паэты. Гэтая паэма пралівае трохі сьвятла на палітычныя настроі Астапенкі ў гэным часе й быццам прадсказвае ягоную собскую долю.

Галоўны гэрой паэмы „Эдэм" Юхім Кашлаты, знаходзячыся на фроньце, як салдат савецкае арміі, тоіць у сабе нязгаслую варожасьць да савецкае ўлады. З гэтае прычыны ён дабравольна здаецца ў палон Немцам. А вось пратакол ягонага допыту Немцамі:

*Нацыянальнасьць ваша?—Беларус.*
*Імя і прозьвішча?—Юхім Кашлаты.*
*Падданьніцтва? — Савецкі быў Саюз.*
*Год нараджэньня? — Дзевяцьсот дзесяты.*
*Партыйнасьць (у мінулым і цяпер)?*
*— У партыі ня быў, бо не па сіле...*
*Вядома, я ў свой час быў піонер.*
*У камсамол прасіўся — ня пусьцілі.*
*Кароткі і дакладны жыцьцяпіс?*
*— У часе раскулачваньня да блізкіх*
*Уцёк з хвальшывай спраўкаю у Тыфліс.*
*Ў культпромсаюзе майстраваў валізкі,*
*Служыў у хлебнай краме прадаўцом,*
*Закончыў морскі тэхнікум у Поці,*
*Ды мора пабаяўся. Бацькаў дом*
*Забыў у вандраваньнях ды ў рабоце.*
*Хлусіць ня буду — я нядрэнна жыў,*
*Пазьней пра бацьку болей ня пыталі.*
*За грошы працаваў ім і служыў*
*І ня пытаўся — што там будзе далей.*
*І вось — вайна. Здалося, што Зямля*
*Стыкнулася з арбітаю камэты,*
*Як у рамане. Шмат хто, як і я,*
*Ужо навекі пахаваў Саветы.*
*Галодны і разуты, ледзь жывы,*
*Бадай штодзень страчаючы пагібель,*
*Я чуў шум збожжа і густой травы —*
*Не на калгаснай — на сваей сядзібе.*
*Маё дабро, мой дом уласны — там...*
*Па ім тужыў, як хворы па здароўі...*
*І я прасіў, казаў таварышам*
*Кідаць усё, ня браць у рукі зброі.*
*Яны мяне хацелі расстраляць.*
*Я ўцёк...*
*Я йшоў праз гушчы пушчаў і лясоў,*
*У твань балотаў з купінаў сьлізгаўся.*
*Я йшоў дамоў — у гэты край ішоў,*
*Дзе ўжо няма Саветаў і калгасаў.*

Немцы назначылі Юхіма Кашлатага за вясковага старасту. І ён служыў верна акупанту не за страх, а за сумленьне. Чытач у напружаньні чакае, што з боку савецкіх партызанаў яго павінна спаткаць помста. Тымчасам у канцы паэмы Юхім Кашлаты, — праўда, пад узьдзеяньнем дазнанае ад Немцаў крыўды — пераконваецца, што ён блудзіў і паступаў няправільна. І вось ён уплянаваў крывавую помсту. Запрасіў да сябе нямецкіх ахвіцэраў у госьці, а калі тыя ап'янелі,

*Ён на парозе стаў і паглядзеў*
*Апошні раз на бацькаўскую хату*
*І ў твары Немцаў, у бязладны сьпеў*
*Шпурнуў на стол Юхім свой гнеў — гранату...*

Гэткім парадкам Юхім акуплівае сваю віну й у фінале паэмы ўспрыймаецца чытачом ужо не з агідай, як зраднік, а із спачуваньнем, як трагічная ахвяра.

Адным із спосабаў змыленьня цэнзуры, пашыраным у беларускай літаратуры дваццатых гадоў, было гэтак званае „даваньне трыбуны". Яно палягала на тым, што ў вусны палітычна варожых пэрсанажаў аўтары ўкладалі супрацьсавецкія выказваньні. Пры тым, пэрсанажы такія былі гэтак паказаныя, што чытач успрыймаў іх не як адмоўныя, але як станоўчыя. Вось-жа й паэма Зьмітрака Астапенкі „Эдэм" жыва прыпамінае гэны спосаб „даваньня трыбуны" для супрацьсавецкіх выказваньняў.

**Ст. Крушыніч**

# ПЛЫВЕ БЕЛАРУСКАЯ НАФТА

Аб тым, што на Палесьсі каля Мазыра знайшлі нафту, давялося нам чуць раней. Ды мо нашая беларуская сялянская насьцярожанасьць, спрычыненая рашчараваньнямі на гістарычным шляху, не пазваляла нам шчэ прыняць гэтую вестку за добрую манэну. Мала там што бальшавікі брэшуць! Такіх-жа брахуноў сьвет ня бачыў! Дый замінала тая спадчына чужога панаваньня над намі. „— Куды вы пяліцеся! Сваю дзяржаву захацелі мець! У вас-жа ні солі, ні нафты, адны балоты ды пяскі. Падохніце бяз нас!" — злосна сіпелі ўсякія ворагі беларускае дзяржаўнасьці сорак шэсьць год таму назад, калі зьняможаны сялянскі народ наважыўся быў на свае ногі стануць.

Вось гэтак і ўбілі людзям у галовы, што яны жабракі, што ня ім да сонца незалежнасьці й вольнага жыцьця крочыць. Зямлю-ж іхную, маўлялі ворагі, Бог пракляў. Нічога тут людзкага, апроч балота, пяскоў, каменьня. А Беларус-нявольнік як мог зьведаць пра багацьці зямелькі роднай, калі чужынец яго ў ярмо запрог, каб яму-ж плён мазольнымі рукамі множыў?

Вядома, цяперака чужынец, ці ня горшы за папярэдніх акупантаў, да нетраў беларускай зямлі дабіраецца, скарбы адтуль выбірае. Сумлявацца трэба, што яны на карысьць прыгнечанаму народу пойдуць. Адно, як той казаў, трэба пажыць ды пабачыць. Ды Беларусы няхай прынамся цешацца пахам роднае нафты, ведаючь, што й іхную зямлю Бог вялікімі багацьцямі надарыў.

Нафтавая эпапэя ў Беларусі адно нараджаецца. У далейшым пачуем, пэўна-ж з казённа-партыйных вуснаў, і пра колькасьць, і якасьць, і пляны, і працэнты выкананьня плянаў, і пра нафтавыя гарады. Як тая Кандратава жабоцька ў каляіне, — пакуль яе не раздушыць калясо народнага возу, — бальшавікі надувацца будуць і бубнець нам, што народ ня толькі нафту, але й сваё існаваньне адно ім заўдзячвае.

Гэта прыйдзе пасьля. Пакуль-жа партыйная нафтавая тарабаншчына не разгарнулася, скупыя весткі пра беларускую нафту прыносіць сьціплы рэпартаж М. Даніленкі, п. заг. „З глыбінь беларускай зямлі" („Літаратура і Мастацтва" за 30. X. 1964 г.).

„Мы едзем да тых, — пачынае Даніленка, — хто вызваліў з-пад глыбозных старажытных пластоў першую беларускую нафту. Яшчэ трохі нязвыкла гучаць гэтыя словы — беларуская нафта. А між тым яна ёсьць, б'е тугім струменем. Мы навет запасьліся бутэлечкамі — каб прывезьці паказаць сябром гэтае цёмна-карычневае дзіва."

Пасьля яшчэ пару ўступных апісальных абзацаў, аўтар прыходзіць да больш канкрэтнага: „— Працэнт парафіну ў беларускай нафце, — расказвае старшы гэалёг Васілевіцкага ўчастка Рыгор Аляксандравіч Калдашэнка, — такі-ж, як у той, што здабываецца ў Татарыі. Затое яна будзе больш даваць так званых лёгкіх фракцыяў — бэнзіны, газы...

Старшы гэалёг з гордасьцю паведамляе, што ў Гомелі хутка будзе створаны спэцыяльны трэст — прамыслова-гэафізычная экспэдыцыя. Перад беларускімі нафтавікамі стаіць заданьне: на працягу двух гадоў падрыхтаваць плошчу пад эксплёатацыю пяцідзесяці шчылінаў."

Вось што расказвае Калдашэнка пра той памятны дзень, калі наўзьверх упяршыню паказалася нафта: „20-га жніўня для буравікоў мала чым адрозьнівалася ад іншых дзён. Стаяла на дзіва яснае надвор'е. У чыстым небе плыло павуціньне. Тады вось буравы майстар восьмай шчыліны Валянтын Зайцаў нечакана крыкнуў: — Хлопцы! Нафта!

Тугі струмень біў у неба. Важкія цёмна-карычневыя кроплі павалі ападалі на зямлю, зьбіраючыся ў лужыны. Бурыльшчак Алесь Шубіч жартаўліва мазнуў свайго памочніка Крышына па шчацэ.

— Чуеш, як далікатна пахне? — сьмяяўся ён. — Гэта табе не адэкалён і ня духі".

А далей, ужо напрыканцы рэпартажу, прыходзяць і некаторыя лікі.

„Восьмая шчыліна дасьць 70 тысяч тон нафты ў год. Хутка ўвойдзе ў эксплёатацыю шостая шчыліна. Яна прабурана на гэтак званых падсолевых адкладаньнях і будзе даваць 250 тон нафты ў пару.

Іван Трафімавіч (мэханік вучастка) паварочвае на буравы вэнтыль. З трубы з глухім сапеньнем вырываецца буры струмень. Мы ўспамінаем пра свае бутэлечкі... Яны хутка напаўняюцца бурым, хочацца сказаць — золатам. Хтосьці ўспамінае, што нехта назваў нафту крывёю зямлі...."

Такім вось чынам мы, Беларусы, гордыя фактам, што й нашая зямелька не бяднейшая за якія іншыя, чуем, як чужы гаспадар пачынае выціскаць кроў зь беларускае зямлі. Ці-ж ёсьць выгляды на тое, што гэта кроў пацячэ ў свае беларускія, а ня чужыя судзіны?

Прыгадайце нядаўнае. Каля Старобіна адкрыты вялізарныя запасы калійных соляў. Якраз такіх соляў патрабуе яловая, бедная на ўгнаеньні, беларуская зямля. Вырас ля Старобіна Салігорск і паплыла з падзямельля тысячамі тонаў цэнная соль. А куды-ж яна паплыла? На свае палі? Ды дзе там! Яна паехала да Гамулкі. Крамлёўскія валадары зрабілі із польскім дыктатарам гяшэфцік на 60 міліёнаў рублёў, а на тое, што беларуская збажына й далей марнець будзе, начхаць ім.

Дык хто-ж цяпер ведае, ці й першая „кроў" беларускае зямлі не пацячэ ў артэрыі чужога цела?

**К. Акула**

**Чытайце, выпісвайце, пашырайце часапіс Беларусаў Паўночнае Амэрыкі**

# ЮБІЛЕЙНАЯ УРАЧЫСТАСЬЦЬ У МАНЧЭСТАРЫ

У нядзелю 25 кастрычніка сёлета стараньнямі сяброў Манчэстарскага Царкоўнага Камітэту й пры супрацоўніцтве Галоўнай Управы Царкоўнага Камітэту БАПЦарквы ў Вялікабрітаніі была зладжаная ўрачыстасьць угодкаў сьвятарства настаяцеля БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі а. Янкі Абабуркі.

Раніцай гэтага дня ў царкве Сьв. Паўла ў Манчэстары адбылася ўрачыстая Божая Служба, якую адправіў сам юбіляр. Царква была напоўненая беларускімі вернікамі, бо, апрача Беларусаў Манчэстару, на ўрачыстасьць зьехаліся нашыя суродзічы зь іншых асяродкаў, як Бірмінгам, Брадфорд, Лёндын, Лідс, Нотынгам і інш. Беларусы Брадфорду прыехалі арганізавана адмыслова нанятым аўтабусам. Сяброўкі Беларускага Юнацкага Клюбу з Брадфорду, увайшоўшы ў царкву, зрабілі прыемнае ўражаньне сваей прыгожа народнай вопраткай.

Пасьля Сьвятой Літургіі ўсе прысутныя былі запрошаныя на ўрачыстую частку, што адбылася ў Беларускім Грамадзкім Доме. Урачыстасьць адкрыў старшыня Царкоўнага Камітэту ў Манчэстары сп. Міхась Яськевіч, прывітаўшы паважанага юбіляра, гасьцей, прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і ўсіх прысутных.

Уступную прамову з нагоды юбілейнае ўрачыстасьці сказаў старшыня Галоўнай Управы Царкоўнага Камітэту БАПЦарквы ў Вялікабрытаніі сп. Янка Калбаса. Ён зьвярнуў увагу на дасягненьні ў працы паважанага юбіляра на карысьць беларускай царкоўнай і нацыянальнай справы. Ён таксама ўспомніў і няпрыемныя й хлусьлівыя выпады, робленыя некаторымі нясумленнымі людзьмі ў дачыненьні да нашага царкоўнага жыцьця. Тым, што намагаюцца ачарніць БАПЦаркву, старшыня параіў пакінуць нашыя царкоўныя справы для нас саміх, бо мы із свайго боку не абражаем нічыей царквы й веравызнаньня.



**Айцец Янка Абабурка сярод сябровак Беларускага Юнацкага Клюбу з Брадфорду**

Пасьля гэтага выступалі з прамовамі прадстаўнікі зь Бірмінгам сп. Міхась Ёўлаў і з Нотынгам сп. Я. Бунчук. Апошні адзначыў, што на працягу ўсяго часу ў Нотынгам прабывала й абслугоўвала вернікаў аж шэсьць праваслаўных сьвятароў, але, нажаль, у іх не ставала беларускага пачуцьця. Затое ў васобе а. Янкі Абабуркі мы маем цяперака запраўднага беларускага душпастыра. Галоўную Управу ЗБВБ рэпрэзэнтаваў і прамаўляў ад ейнага імя заступнік старшыні сп. Янка Міхалюк. Ад казацкіх арганізацыяў прамаўляў палкоўнік Д. Каралькоў. Пасьля прамоваў а. Янку быў паднесены букет хрызантэмаў ад маладых сяброваk Беларускага Юнацкага Клюбу з Брадфорду. Ад беларускіх рэлігійных і грамадзкіх арганізацыяў у Брадфордзе быў паднесены юбіляру падарак у якасьці двух сярэбраных падсьвечнікаў. Падарак атрымаў а. Янка таксама й ад манчэстарскіх суродзічаў.

Юбіляр а. Янка Абабурка ў сваёй прамове шчыра падзякаваў за гэтак вялікую да яго ўвагу. Ён запэўніў, што ўсё зробленае дагэтуль для дабра беларускай справы, будзе надалей набіраць сваю вартасьць, а перашкоды, што стаяць на дарозе, будуць перамоганыя, калі ўсе будзем задзіночаныя ў працы для бацькаўшчыны.

Убраныя ў прыгожую беларускую народную вопратку сябры Беларускага Юнацкага Клюбу ў Брадфордзе пацяшалі юбіляра й усіх прысутных багатай праграмай беларускіх народных песьняў і танцаў. На заканчэньне былі зладжаныя сябрамі мясцовых арганізацыяў вечарына й банкет.

Уся-ж урачыстасьць пакінула на прысутных вельмі глыбокае ўражаньне. Яна астанецца ў нашай памяці на даўжэйшы час, як адно з нашых прыгожых нацыянальных дасягненьняў.

**Янка Крушына**

# Зь Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня

Як кажны год, так і сёлета, Нацыянальная Рада Амэрыканскіх жанчын мела гадавую зборку, дзе чытала лічбызданьне 26-ёх адьдзелаў (у тым лічу і нашага Жаноцкага Згуртаваньня) і колькі камітэтаў.

Чэхаславацкія жанкі апякуюцца старымі і да працы няздольнымі ў Нямеччыне і новымі ўцякачамі ў Аўстрыі й Італіі. Украінка рэфэравала аб куплі дому дзеля старых у Тароньце. Шмат якія жаноцкія арганізацыі памагаюць у Афрыцы, у Карэі, даюць стыпэндыі і гэтак „праўдаю й паразуменьням" зносяць бар'еры паміж нацыяў і культураў. Дармавая работа жанок вельмі карысная. Музычны камітэт заклікаў жанкі, каб запісавалі і награвалі на істужку народныя песьні, каторыя памалу забываюцца. Камітэт мастацтва й літаратуры радзіў арганізаваць супарствы жаноцкія й дзяціныя ў галіне мастацтва й літаратуры.

Добра вадзіць вучняў і моладзь у музэі, галерыі ды займацца мастацтвам у вольным часе дзеля прыемнасьці. Камітэт узгадаваньня заклікаў да ходаньня зь няпісьменнасьцяй, радзіў жанкам прасіць памогі пры вышшых студыях, дамагацца вышшых урадаў подля свае кваліфікацыі. Камітэт здароўя суліў вучыць сем'і, як апекавацца хворымі, каб ня трэба было без патрэбы пасылаць хворага да шпіталю, што цяпер перапоўнены. Было шмат іншых пасуленьняў, каторыя нельга ўжыцьцёвіць беларускім жанкам на эміграцыі, дарма што яны цікавыя. Гэткай шыршай працаю можна будзе заняцца нам або нашым дочкам на Бацькаўшчыне.

**Сяброўка**

## МАЛАДЫ БЕЛАРУСКІ НАВУКОВЕЦ

Сёлета ў красавіку адбыўся ў Вашынгтоне зьезд амэрыканскіх фізыкаў. На гэтым зьезьдзе малады беларускі навуковец Расьціслаў Гарошка з даручэньня катэдры экспэрымэнтальнае фізыкі Калюмбійскага Унівэрсытэту прачытаў рэфэрат з галіны нуклеарнае фізыкі на тэму: Angular correlations in inelastie proton scattering on Mg. 24.

У скарочаньні рэфэрат гэты быў надрукаваны ў Бюлетэні Амэрыканскіх Фізыкаў за красавік 1964 году.



*І я пайшоў у горад за нязнанай славай,
а ты астаўся там-жа пад страхой старой.
Ліста мне ад цябе ніразу ня прыслалі,
хоць ты й пісаў яго вячэрняю зарой.*

*Туга і боль душу пабілі мне на раны,
і я пачаў успамінаць цябе часьцей,
пачаў выходзіць на шляхі-дарогі раньнем
і запрашаць к сабе няведамых гасьцей.*

*Ўспамінаў аб табе усё-ж нікому не расьсеяць;
і знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
адно спазнаеш ты, спазнаў як Одысэя:
прымі-ж ты ад мяне гарачы мой паклон.*

III

*Ці я ў тэатры, ў рэстаране п'яным,
дзе радасьць расьпіваюць пад джаз-банд;
усюды зрок вачэй блакітных вяне,
і ўсюды бачу я жалобны бант.*

*Няхай сабе я сяньня й страшна хворы,
ня трэба ўсё-ж рэцэптаў для душы,
Сталецьцямі гараць і сьвецяць зоры,
і іх вятры ня ў сіле затушыць.*

*Няхай, няхай гавораць так і гэтак,
а я пішу табе ўжо трэйці ліст,
няхай сабе аблаяць і ў газэтах,
мо' ўспомніць часам хто калісьць.*

*Мой дружа, ці-ж у гэтым рытмы песень
і смутак нашай сонечнай красы?
Калі паэт галоў на грудзі зьвесіць,
няўжо краіне ён тады ня сын?*

*Мне часта зябка й холадна бывае,
і ўсё-ж ніхто ніразу не сагрэў,
не цалаваў-жа зраднымі губамі
ніколі я лістоў, апалых з дрэў.*

*Стаю вось перад Зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю й чаго, дрыжу.
і сам ня ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыдзі хутчэ і укрыжуй!*

*Канец хай будзе ўсім маім цярпеньням;
няхай лісты разьвеюцца з асін,
з чала краіны вырву ўсё-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.*

*Няўжо мне ранаў песьня не загоіць,
што гэтакі трывожны б'ецца пульс?
Паэт, які ня ведае агоній,
ня здолее уславіць Беларусь.*

*Ой, гэта слова, слова дарагое!...
Ах, дружа мой, заўсёды рытм саб'е!
Я-ж напісаць хацеў зусім другое,
хацеў у госьці запрасіць цябе.*

*Адно вось толькі думы непакоіць:
ці ўдасца ўсё-ж даехаць да мяне?
Ну, скажам, адвяжуць к чыгунцы коні,
аж блісьнуць зоры ў полі з-пад саней.*

*А там білет, і ты ў вагоне спальным;
ты сьнедаць зможаш ў рэстаран зайсьці,
у ім зімою зеляняюць пальмы,
і думаеш, зімы няма ў жыцьці.*

*А на вакзал, на сьветлую плятформу
прыду я сам, прыду цябе сустрэць.
Адзін другога горача прыгорнем, —
даўно, даўно ня меў такіх я стрэч.*

*Ня ўсьпееш з дому перадаць вітаньня,
йшчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,
і тут-жа раптам горыч разьвітаньня, —
ў сталіцы не дазволяць жыць табе.*

*Адзет ня будзеш ты ў парадны кіцель,
ня будзеш мець заслугі-мэдаля,
зьбягуцца і абступяць цябе гіцлі,
і будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.*

*Жыві, жыві, знаць, дома лепей;
услухвайся ў таёмны шум і шэпт,
чужыя людзі ходзяць каля склепу,
пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.*

### ЛІСТ АД САБАКІ

*Добры мой паэт, прабач,
што доўга ня было ліста.
Твой сьлёзна-горкі плач
хацеў я днямі залістаць.*

*Ўсё хацеў, каб як астыць
пад ветру-сьвіст з прысад.
Атрымаць лісты, лісты...
ніяк ня здолеў адрэсат.*

*Знаць ня знаю — жыў ён, не,
ці блудзіць з хэўрай валацуг?
Толькі крук тырчыць ў сьцяне,
чаплялі за які ланцуг.*

*Дом зусім, зусім раскрыт,
цяпер я ў ім вартую сінь.
Бачыш, стыль які і рытм,
заместа бацькі піша сын.*

*Добры мой, лісты твае
калі мне прачытаў твой брат,
гойсаць стаў я па траве
і пасабачаму стаў рад.*

*Выць пачаў на млечны шлях,
каб ён яшчэ сьвяціў ярчэй,
пасьля лёг каля шуля
і сьлёзы хлынулі з вачэй,
— Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
я штоночы і штодня
ня маю радасных гадзін.*

*Добры мой, пішы яшчэ,
пішы навіны мне свае.
Зь песьняй жыць куды лягчэй,
душа ня хоча зь ёй сівець.*

*Часта я гляджу у даль,
ці вобраз твой ня ўбачу там?
Разьвявае лёгкі шаль
ў даліне сонечнай туман.*

*Не пайду я з-пад вакна, —
твой чую крок ў людзкой хацьбе.
Ўвесну, як прыедзеш к нам,
я першы абніму цябе.*

*Выйду, стрэну ля варот, —
такі, такі ўжо ў нас закон.
Будзе мой сьмяяцца рот,
і цалавацца буду языком.*

*Знаю, знаю, ты жывы,
цябе ніхто не запражэ...
Будзь-жа, будзь здароў, жыві;
цябе цалуе моцна Жэк.*

**Язэп Пушча**